ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Неруш чыстая, маладая

## З нечаканай мастацкай выстаўкі

*Гэтая выстаўка работ маладых мастакоў рэалістычнага пейзажу ў сталічнай галерэі Міхаіла Савіцкага сапраўды нечаканая ў наш час з амаль павальнай мадэрновай арытміяй, калі нават і вучні славутых рэалістаў, песняроў роднай прыроды, бягуць з яе ў чужыя джунглі, абы ў тую камфортную, што за кардонам, Еўропу, калі на айчынных вернісажах маладыя таленавітыя рэалісты не родныя дзеці, а прыблудныя пасынкі. Што ім яшчэ рабіць, як не гуртавацца, каб заявіць пра сябе і выжыць? У гэтым гурце пакуль што сямёра выхаванцаў апошніх гадоў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Аднаму з іх дваццаць восем, астатнім па трыццаць і крыху за трыццаць. Усе яны любяць родную прыроду, яе і пішуць на сваіх кардонках ды палотнах. Калі карацей – дамарошчаныя патрыёты.*

### Краса ў будзённым

**Уладзіслаў Пятручык** – самы малады ў гурце. Ён вывесіў на прагляд дзясяткі тры эцюдаў, і ўсё гэта матывы просценькія, будзённыя для кожнай вёскі, не абцяжараныя ні зместам, ні складанымі формамі, ні нават каларытам, без прэтэнзій на карціны, усе аднаго вельмі сціплага памеру, велічынёй з разгорнутую кнігу, школьны падручнік. Але гэта на першы погляд. Калі ж спыняешся перад любым эцюдам, хоць самым сціплым, угледаешся ў яго ўжо не толькі вокам, яшчэ і сэрцам, думкаю, адысці не спяшаешся, бо як бы сам у яго ўрастаеш, сваё ў ім бачыш і сябе самога і, што найдаражэй, адчуваеш. Вось двор у вёсцы каля хаты, закутак, тры курыцы ды пеўнік малады, адна з-пад лап дзяўбе, другая – дзюбу ўгору, як пракаўтнула каліва. Будзённае, нічога новага, але ўсё гэта разам, з акном у хаце, з рухам у акне, жыццё лагоднае і ціхае, гармонія таго, што трэба не курам адным, але і чалавеку, атручанаму жыццём хлуслівым, прывідным, часта зусім пустым. Адзін з эцюдаў гэтак і называецца: «Ціхае жыццё». А ці не самы ціхі ды маленькі – «Люстэрка»: бераг возера і прычаленая лодка, налітая вадою, у ёй, той лужынцы, адбітак, нібы ў люстэрцы, высокага неба, ягонай глыбіні ды цеплыні, палітра з найтанчэйшымі адценнямі. Ды і не толькі фарбы неба ў лодцы, глядзяцца ў яе люстэрка і чыстая азёрная вада, і бераг з пясочкам-муражочкам. Усё разам – гармонія жывых тонаў, іх тонкіх дачыненняў у прыродзе, красы вытокі, таямніцы.

Бачыць у малым будзённым сапраўдную і вечную красу – шчаслівы, усім патрэбны талент. У дачыненні да маладога аўтара, які ў сваіх работах выяўляе не столькі веданне акадэмічнае навукі, як прыродную інтуіцыю, мастацкі густ, якраз высвятляецца, чаму ён гэтак аддана трымаецца малога эцюда, не спяшаецца да больш складаных кампазіцый, не замахваецца нават на большыя памерам эцюды. У сваім выбары і не хаваецца, сціпла прызнаючыся: «Тое раблю, што люблю, адчуваю сваім. Бабуля кажа: маладыя дзеці – любімыя, вялікія – рагатыя. На карціну трэба шмат часу, за ёю, баюся, не напішу малыя, якія на мяне з усіх бакоў глядзяць, на пэндзаль просяцца».

### У пошуках ідэалу

Насупраць эцюдаў Пятручыка сцяна з работамі **Міхаіла Крота.** Тут іншыя і пошук натуры, і тэмперамент мастака. Міхаіл старэйшы, яшчэ і таму, магчыма, яго пошукі смялейшыя, спакуса замахнуцца на паўнавартасную кампазіцыю мацнейшая. Зноў ды зноў ён бярэ большае памерамі палатно пад карціну, аднак і гэтакае дае ўсяго толькі большы ў памерах эцюд. Свае пошукі мастак не спыняе, шукае натуру шматпланавую, драматызм у зменлівых настроях паміж порамі года, на збегу пагодлівасці і непагадзі, дня і ночы, смела, бывае, нават і рызыкоўна працуе з формамі ды колерам буйным энергічным, часамі паспешлівым мазком: пейзажы «Сонечны дзень», «Пасля навальніцы», «Марозна», «Зімовае сонцастаянне», «Дажджліва на рацэ Ведрыч». Настойлівасць сілкуецца любоўю да прыроды, да жывапісу, а гэта выклікае павагу, упэўненасць, што свой ідэал мастак знойдзе.

### Адной вадою ахрышчаныя

Паміж сяброў гурта, яшчэ ўчорашніх, можна сказаць, вучняў акадэміі, ёсць ужо і тыя, хто мае сёння сваіх вучняў і сам выкладае навуку жывапісу. **Антон Вырва** – трэці год у сваёй альма-матэр, акадэміі; **Раман Коршунаў** – у Магілёве, у мастацкім каледжы, дзе раней, да акадэміі, абодва вучыліся ў майстэрні выдатнага акварэліста Фёдара Кісялёва. Творчыя дарогі таленавітых жывапісцаў перапляліся з маленства ў Крычаве, дзе дамкі бацькоўскія, у якіх раслі, на адной вуліцы, славутай Варшаўцы, вокнамі да вокан, па-суседску. Адной вадою ў Сажы ахрышчаныя, вучыліся ў адной мясцовай мастацкай школцы, і далей – адзін каледж, адна акадэмія, адны







настаўнікі. Цяпер кожны з іх мае свой твар у мастацтве, бо ў кожнага свае душа, характар, думкі. Дарогі, як у сяброў, па-ранейшаму сыходзяцца і разыходзяцца, каб ізноў сысціся на нейкім жыццёвым скрыжаванні, як тут, на гэтай выстаўцы.

«Срэбра вечара» і «Цішыня» – работы прыблізна аднаго фармату і памеру. Там і там дамочак на заснежаным узгорку пад высокім светлым небам, бярозка, вартаўніца цішыні і срэбра, зімовае чаканне цяплейшых дзён. Штосьці і яшчэ яднае ўсю прастору, дае настрой.

– У той дзень мы з Раманам ад раніцы пісалі на Сажы, – кажа Вырва. – Намерзліся, стаміліся. Вярталіся дадому. Ідзём – маўчым. І раптам у адзін момант спыніліся абодва, як хтосьці даў каманду, прымусіў. Глядзім перад сабой: высокі бераг, хатка і бяроза ў прасторы светлай, у чысціні – такое захапленне для душы! Ні чалавека, ні звера, ні птушкі – ціша, быццам незямная. Веліч! Раман, не кажучы ні слова, здымае з пляча эцюднік, ставіць, стаўлю і я свой. Расклалі фарбы, абодва пачуўшы вышэйшы ўладны голас, а ўжо апошняе святло знікае. Хапаліся – да поту. Я цішыню пісаў, яна мяне ўразіла, Раман – срэбра. Мне цішыня даўжэй свяціла, а срэбра – як сябра мог яго ўжо бачыць, калі яно ледзьве паспела ў вока кінуцца – пагасла? Дзіўлюся і цяпер: як тое срэбра паспеў зліць у эцюд? Або зліў у памяць? Спытаю – усміхаецца. Ну ладна, хай будзе загадка. Карціны гэтыя мы ўжо пісалі дома па тых эцюдах. Я, праўда, эцюд свой ад вачэй, калі пісаў, хаваў, бо на Сажы душа адчула большае за тое, што на эцюдзе, душой пісаць хацелася, баяўся, каб эцюд не збіў з настрою, тону.

– А як Раман? Яму трэба было ўкласці ў карціну срэбра, што свяціла ў тую, на Сажы, хвіліну, – спытаў я. – Ён без натурнага эцюда не мог паўтарыць тое святло?

– Талент.

Антон адышоў да сваіх краявідаў, заўважыўшы ля іх студэнтак.

Я перагледзеў пейзажы Коршунава, шукаючы між іх вясновыя матывы, напісаныя на Сажы ў апошнюю паводку, якімі захапляўся зусім нядаўна ў салоне на праспекце Незалежнасці, іх не знайшоў, але іншыя ўразілі таксама тонкім адчуваннем валёраў, рэфлексаў: «Падніколле», «Марозны дзень», «Адліга», «Зімовы двор». Снег, снег і снег, хоць у «Зімовым двары», свежы, лёгкі, не затаптаны ні гаспадаром двара, ні птушкамі, ні сабакамі, завеяй-ветрам не ўкатаны, усюды як быццам пад адным святлом нябесным – на зямлі, на стрэхах хлява, хаты, на дрэвах. Нялёгкая задача ў адным агульным тоне знайсці ўсюды свае лакальныя адценні, свой каларыт. Мастак гэта рабіў недзе адным лёгкім мазочкам, нібыта выпадковай, але да месца ўсюды плямкай, выяўляючы тонкае адчуванне настрою ў кожным кутку пейзажа і свайго ўласнага, іх зводзіў у ладзе і гармоніі.

### …Усяго адна марская хваля

Размова з Антонам Вырвам прадоўжылася каля яго работ. На кожнай ён таксама ўпэўнена трымаў агульны тон, знаходзіў удалыя танальныя збегі, але ў каларыце быў смялейшы. Школа адна, але па-за ёю быў ужо не аднолькавы творчы шлях, вопыт – ад розных характараў, тэмпераментаў, побыту. Антон шмат працаваў у майстэрні і на пленэры, гадзіны, вольнай ад працы ў акадэміі, не марнаваў у дробязях жыцця. Праз інтэрнэт яго ўжо ведалі ў шмат якіх мастацкіх колах і краінах, запрашалі ў сваю прыроду. Ён не адмаўляўся ад далёкіх вандровак з эцюднікам на плячы. Толькі за апошнія год-паўтара пабываў у Казахстане, Кіргізіі, на Ацэ ў Тарусе і Паленаве, на Стаўрапольшчыне, у Арменіі, Іспаніі. Адусюль прывозіў арыгінальныя эцюды, але пабачыць іх можна было толькі ў майстэрні, што я і рабіў з прыемнасцю. Чаму іх не паказваў на выставах? Адчуўшы маё пытанне, прызнаецца:

– Па нейкія заморскія ўражанні або шэдэўры я не еду далёка ад дому. Лепшыя працы мне ўдаюцца тут, на Сажы. Іх я і выстаўляю. Дома, у сваёй прыродзе, у твор лягчэй душу ўкласці.

– Тады навошта далёка ездзіць?

– Але там іншыя каштоўнасці, якія таксама трэба ведаць. Мяне цікавіць, як у іншым народзе мастак шукае і знаходзіць сваё нацыянальнае. Даўно захапляюся Сар'янам. Паехаў у Арменію, каб убачыць яго мастацкія работы ў тым каларыце, у тым святле. У Стаўрапалі цікавіў Грачышкін, яго паўночны Каўказ. У Іспаніі – Сарола. Ён усё жыццё пісаў мора, на беразе якога жыў, вельмі любіў маленькі эцюд, нават меншы, як у нашага Пятручыка, з далонь. На сотнях гэтакіх эцюдаў усяго адна марская хваля, а колькі каларыту, руху, жыцця! Уражанне такое, што красу і сілу хвалі мастак бачыў і адчуваў не толькі на паверхні мора, але ў яго глыбінях, адтуль, з глыбіняў, зліваў на кардонку, на палатнінку. Гэта – школа. Для кожнага глыбокага мастака і для мяне, беларуса, хоць я працую ў сваёй прыродзе. Хачу сваю прыроду бачыць і адчуваць, як бачыў і адчуваў сваю Сарола.

### Адзіная жывая душа

**Васіль Пяшкун** – размова пра тыя ж тон ды каларыт, эцюды ды карціны, паразуменне мастака з жывой прыродай, натуры – з мастаком. Але як талент арыгінальны, думка не спіць, размове нават і звычайнай знаходзіцца кірунак незвычайны:

– Калі ёсць тэма, ёсць яе носьбіт і апора, мастацкі вобраз, тады павінна і карціна быць, адбыцца?

Яго я разумею. Старэйшы з сяброў па гурце, з большым мастацкім вопытам, з амбіцыямі, апраўданымі яшчэ і відавочным жывапісным





талентам, ён добра ведае, дзе і як шукаць карціну. Пра гэта кажуць і назвы тых, што на выставе: «Па ваду», «Прыехаў госць», «Вуліца роднай вёскі», «Час садзіць бульбу». Пад натуру, якую ведае са сваіх жыццёвых назіранняў, мастак знаходзіць тэму, фабулу, галоўны для задуманага твора мастацкі вобраз. Шлях пошуку не новы, выпрабаваны ў жывапісе. А тут – што ў выніку? Аўтару за гэтыя работы не сорамна. У кожнай ёсць жывапіснае майстэрства, тэхніка, ствараецца патрэбны настрой, вобраз працуе на задуму. Ёсць у аўтара сумненні? Яму ахвота большага? Выдатна. Сумненні пільнуюць кожнага сапраўднага мастака. Няма іх толькі ў дылетантаў, графаманаў, а Пяшкун – не з іх. Даверлівы, адкрыты, шчыры, ён сам схіляе да размовы пра свае сумненні:

– Вось – «Па ваду». Зіма ў вёсцы, снег і мароз. Бабуля з адным вядром, бо два ёй не панесці, не па сілах, ідзе да рэчкі, да палонкі, аблітай лёдам, каб узяць вады вядзерца, перад палонкай стаўшы, можа, на калені. Хіба не драма, не бяда? Яна, можа, адзіная душа жывая тут, у вёсцы, забытай людзьмі і Богам, – няма ж нікога, каб ёй пасобіць, вады прынесці. Што яшчэ трэба для гэтае карціны? Каб на ўсю сілу прагучала?

Маўчу. Думаю. Што мне яму сказаць, калі я не мастак – пісьменнік? Тут права на амбіцыі не маю. Ён пасабляе мне: скіроўвае ўвагу на карціну «Час садзіць бульбу». Я пытаюся:

– А што вызначае гэты час? Садзіць ці не садзіць?

– Як што? Стаяць ужо на зямлі каля мажары мяхі, насыпаныя бульбай, поле...

Пытаюся:

– Ты ў Савіцкага вучыўся?

– Вучыўся. Вучуся.

– Памятаеш яго карціну «Сяўба»? Таксама стаяць мяхі, не з бульбай у вясновую зямлю, у баразну – з насеннем, зернем. Той самы дзень у жыцці беларуса – надзеі на ўраджай, на хлеб, на жыццё. Праз што настаўнік зрабіў наймоцным той настрой? Ён – у чым? Не ў мяхах. У вачах у сейбітаў, у мужыкоў, жанчын. У іх тварах. У руках, якія трымаюць у жменях насенне.

– Там іншы час. Пасля вайны. Галодны.

– Так. Савіцкага не паўторыш. Не трэба. Час іншы. Але вясна, зямля, сяўба – надзеяй на жыццё наш чалавек вясною, кідаючы ў зямлю насенне, жыў заўсёды. Час іншы, а той самы клопат. Як выявіць? У яго свой твар, але ён ёсць? – Тут і бабуля з вядром вярнулася да нас у размову: – Знайшоў выдатную бабулю, але яна пакуль яшчэ – як гэты з бульбай мех: ёсць і няма, сябе, сваю драму, не выяўляе на ўсю моц. Ужо бабуля патрабуе гэтага ад мастака. Знайдзі ёй наймацнейшы момант, ракурс, месца. Магчыма, што і на каленях ля палонкі, з якой ёй у вочы глядзяць жыццё і смерць. Не бойся, што хтосьці асудзіць за гэтакую, напоўніцу, шчырасць.

– Не баюся.

– Ну, малайчына!

### Урок майстра

Вяртаючыся дадому пасля сустрэчы з маладымі мастакамі, Антонам і Васілём, успомніў зноў Савіцкага. У апошнія гады яго жыцця мне штосьці падказала да яго дарогу, і час ад часу я да яго ў дом на Някрасава наведваўся. Сустрэчы былі розныя. Адны – нядоўгія, малацікавыя, іншыя зацягваліся на тры, на пяць гадзін, пад запісы на маім старым парыжскім дыктафоне. Аднойчы, у час размовы пра яго «XX век. Забойства праўды», ён раптам сказаў: «Хачу развітацца са сваім дваццатым векам яшчэ адной карцінай. Яна будзе называцца – «Прэзумпцыя хлусні». Дажыўшы да сённяшняга дня, жывучы ўжо ў дваццаць першым, я ўсё ж застаўся там, мой век – дваццаты. Быў век хлусні і яе апраўдання. Не хачу, каб ён, мой, паўтарыўся ў дваццаць першым. Хачу забіць у яго труну апошні цвік. Але... задоўга шукаю формулу, кампазіцыю. Ужо два гады шукаю. Знаходжу і адмаўляю, зноў шукаю. Яна павінна выявіць...»

Пашкадаваў, што гэта я не ўспомніў там, у размове з хлопцамі. Ім гэта трэба сказаць. Знайшоў ці не знайшоў Савіцкі тое, што шукаў, але тут ёсць урок выдатны – пошук. Яны, хлопцы, там, у яго майстэрнях, працавалі, з ім бачыліся, размаўлялі – магчыма, штосьці дададуць да гэтага ўспаміну.

Цікавая выстаўка. Па-сапраўднаму творчае, шчырае, чыстае паветра панавала на ёй больш за месяц у галерэі Савіцкага. Цікавай і значнай яна выглядае не толькі талентамі маладых рэалістаў у пейзажным жывапісе, але і сваёй нечаканасцю. Неўпрыкмет для саміх сябе неяк прывыкшы да таго, што размова пра мастакоў у друку вядзецца не пра творчасць, а пра іх здольнасці ў гатоўлі дранікаў, збіранні калекцый вясковай старызны, выхаванні прывабнай вучаніцы сабе ў жонкі, мы раптам убачылі і адчулі, што яшчэ жывыя ў нацыянальным выяўленчым мастацтве традыцыі нашых славутых пейзажных рэалістаў Бялыніцкага-Бірулі, Жукоўскага, Рушчыца, Бархатковых, Карасёва, Цвіркі, што гэтыя традыцыі развіваюцца ў новай рэальнасці, знаходзяць і выяўляюць сучасны змест, сваю жывапісную красу і радасць.

**Віктар КАРАМАЗАЎ.**

АЛІМПІЯДА–2018



## Правал

Адпраўляючы спартсменаў на Алімпіяду ў Пхёнчхан, Беларусь спадзявалася на медалі біятланістаў. У першую чаргу – на перамогу жаночай каманды.

І вось правал за правалам. Спачатку – у спрынце (забегу на 7,5 кіламетра з двума агнявымі рубяжамі). А ўчора – у гонцы пераследу. Скардзіна – 14-я, Крыўко – 17-я, Домрачава – 37-я. На апошнім агнявым рубяжы Дар'я зарабіла чатыры штрафныя кругі.

І ўсё ж хочацца верыць, што беларускія спартсмены яшчэ парадуюць.

ШОУ-БІЗНЕС




*14 лютага гурт «J:Морс» і Прэзідэнцкі аркестр у Prime Hall прадставяць адмысловую версію праграмы «Беларускае золата», прымеркаваную да Дня закаханых.*

Дырыжыраваць аркестрам будзе маэстра **Віктар Бабарыкін.**

– *Гэтую праграму мы выконваем зрэдчас, але заўжды з вялікім задавальненнем,* – адзначае лідар гурта **Уладзімір Пугач**. – *Спалучэнне гурта з жывым аркестрам надае песням гучанне, якое ніякімі іншымі сродкамі дасягнуць немагчыма.*

Квіткі на канцэрт каштуюць ад 40 беларускіх рублёў.

**Вера ВІР.**

ЗЕМЛЯКИ

## Мария Гулегина сорвала овации в Мариинском театре



*Выступление звезды мировой оперы в Санкт-Петербурге состоялось пару дней назад, но соцсети до сих пор штормит от впечатлений. Певица, которая в свое время пела в белорусском Большом, блистала в одной из своей любимых опер – «Тоске». «Каждая встреча, каждое соприкосновение с голосом и искусством этой невероятной Певицы переворачивает и очищает душу!»*

*«Триумфальная, роскошная, успешная, любимейшая, великая»,* – это только некоторые эпитеты, которыми сопровождаются отзывы о спектакле.

Кстати, на март запланирован сольный концерт Марии Гулегиной в Санкт-Петербурге. Не исключено, что там будут и белорусские поклонники певицы. Правда, стоит поторопиться с билетами – в последнее время не так уж часто Гулегина радует своими выступлениями в России.

Мария Гулегина родилась в Одессе, но Беларусь считает своей малой родиной. В своих интервью она постоянно повторяет: *"Я благодарна Минскому театру, где подписали бойкот против меня в ЦК КП Белоруссии: "Мы с ней петь не будем, она не такая, она хочет все петь на итальянском языке. А мы не такие, мы все патриоты..." И у меня просто другого выхода не было, как уехать..."*

Сегодня Мария Гулегина поет на самых известных оперных сценах мира. В белорусском Большом она не выступала много лет. Не приглашают.

Про свою личную жизнь Мария Гулегина рассказывает кратко: *«Семья для меня – это мои дети. Три раза я промахнулась с замужеством. А потом просто поняла, что, кроме моих детей, мне никто не нужен».*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 12.02.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 010 экз. Заказ № 570.